

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 15 (43) 19—25 траўня 1993 г. Цана 3 рублі

## НА 8-МІ СТАРОНКАХ:





Квітнее травень.

**Як мы й абяцалі, друкуем у гэтым нумары ідэалагічную (з акцэнтам на першую частку слова) Заяву нядаўна створанага Таварыства Вольных Літаратараў.**

## ЗАЯВА

**сяброў Таварыства Вольных Літаратараў**

Таварыства Вольных Літаратараў. Ня цяжка ўявіць, як гэтыя словы ператворацца для некаторых сяброў СП Беларусі ў чырвоны плашч тарэра. Што гэта за вольныя літаратары? А мы што, нявольныя? Ад чаго яны вольныя?

Высьвятленьне адносінаў, хто за каго вальнейшы, можа ператварыцца ў суцэльную лаянку. Таму паспрабуем некалькімі сказамі папераджальна адказаць на гэтыя пытаньні. Мы вольныя ад догмаў, якімі кіравалася ўсё літаратурнае жыцьцё ў савецкай Беларусі, мы вольныя ад манапольнай літаратуры, мы вольныя ад чыёйсьці літасьці ў вырашэньні нашых літаратурных лёсаў, мы лічым, што гэтага дастаткова, каб называцца вольнымі.

Мы не вынаходзім ровара і ня лічым сябе калюмбамі. Васіль Быкаў у студзені 1989 году, адказваючы на пытаньне, ці патрэбны адзіны Саюз пісьменьнікаў, сказаў: «Калі мы сапраўды імкнемся пакончыць з тым, што пражылі, і стаць дэмакратычным грамадзтвам, то СП у тым выглядзе, у якім ён знаходзіцца сёньня, пісьменьнікам не патрэбны. І я лічу, што ў будучым на зьмену яму, відаць, прыйдуць добраахвотныя аб'яднаньні пісьменьнікаў на аснове агульнасьці мастацкіх поглядаў, этнічнай агульнасьці або проста на чалавечых схільнасьцях. Як гэта было часткова ў 20-я гады ў нас або як гэта мае мейсца зараз у заходняй літаратуры».

Камуністычная дэспатыя на Беларусі зьліквідавана, а ў літаратурным жыцьці Рэспублікі нічога не зьмянілася. Прыйшоў час на практыцы ажыцьцяўляць зьмены. Мы не зьбіраемся ні з кім варагаваць. Мы хочам быць самастойнымі. Мы ня кажам, што мы лепшыя. Як усе літаратары Беларусі, мы марым пра росквіт беларускай літаратуры. Але мы супраць манаполіі ў літаратуры. Мы супраць пратэкцыянізму і карупцыі ў мастацтве. Наш сьцяг бел-чырвона-белы. Але мы супраць псэўдафальклёрных нацыяналістычных межаў у мастацтве. Наша бацькаўшчына—Беларусь, а радзіма—плянэта Зямля.

І мы пачынаем.

**Алесь Аркуш, Павел Бурдыка, Славамір Адамовіч, Юрась Пацюпа, Юры Гумянюк, Анжаліна Дабравольская, Ігар Сідарук, Лера Сом, Мікола Касьцюкевіч, Юрась Лаўнік, Лявон Вольскі, Юрас Карпаў, Вінцэсь Мудроў, Алесь Касьцень, Алесь Туровіч, Сяржук Мінскевіч.**

*Весткі з раёнаў*

## Дзе камунізм, а дзе ўжо і капіталізм

Вядома, што ў Віцебску ўтварыўся пэўны тэлефонны «камунізм». Па гораду й раёну можна бясплатна званіць з тэлефонаў-аўтаматаў. У Полацку ж пакуль захоўваецца аплата 15-капеечнымі манетамі. А вось на Глыбоччыне з нядаўніх часоў уведзены спецыяльныя жэтоны для аплачвання тэлефонных размоў. Кошт жэтона для гутаркі з абанентам па райцэнтру й раёну складае 6 рублёў, а з міжгорадам—пятнаццаць.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

## З крэсла— у крэсла

Напрыканцы красавіка прэзідыум Віцебскага абласнога Савета задаволіў просьбу Ц. Місуны аб вызваленні яго ад абавязкаў намесніка старшыні аблсавета. Нарэшце адбылося тое, чаго дабіваліся дэмакратычныя сілы Віцебска.

Пэўна, у тым, што Ціхан Іванавіч пакінуў мяккае крэсла намесніка кіраўніка вобласці, ёсць трошкі і нашай, журналістаў, заслугі.

Чым жа Ц. Місуна будзе займацца цяпер? Ён ужо прыступіў да выканання новых абавязкаў—генеральнага дырэктара ВА хлебапрадуктаў. Яго папярэднік на гэтай пасадзе звольнены ў сувязі з нашумеўшай справай «аб 900 мільёнах». Хочацца спадзявацца, што пры новым начальніку прадпрыемства не будуць раскідвацца сотнямі мільёнаў дзяржаўных рублёў.

А ў тым, што новае крэсла для Ц. Місуны, па сутнасці, такое ж мяккае, як і ранейшае, я не сумняваюся. Цікава, а якая спецыяльнасць у Ціхана Іванавіча згодна з дыпломам?

**А. БУКАЧОЎ.**

## Якім будзе адказ?

Рэдакцыя нашага выдання скіравала старшыні аблсаўпрафа З. Крот і пракурору вобласці М. Шахметаву лісты наступнага зместу:

«У трэцім нумары (1993 г.) газеты «Выбар» быў апублікаваны матэрыял пад назваю «А выяснял Сазон...» У ім расказвалася аб передачы у асабістую маёмасць кватэр 26 грамадзянам, які праінвеставалі іх будаўніцтва.

Зараз чытачы газеты звяртаюцца ў рэдакцыю з просьбаю паведаміць: чые гэта сваякі набылі такім чынам кватэры? Ці прытрымліваліся чаргі, ці з'яўляліся гэтыя людзі на той момант тымі, якія адчуваюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў?»

Спадзяёмся, што і сп-ня Крот, і сп. Шахметаў дадуць поўныя, грунтоўныя адказы для нашых чытачоў, якіх так хвалююць «кватэрныя пытанні».

**Наш кар.**

**Выступ народнага дэпутата Беларусі, лідэра Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Зянона Пазьняка 8 красавіка г. г.**

# НЕ ПАТРЭБНЫ НІЯКІ ВАЕННЫ САЮЗ

Спадары дэпутаты!

Ня можа не выклікаць зьдзіўленьня тая пасьлядоўнасьць і тая частотнасьць, зь якой у вапошні час узьнікае ў Вярхоўным Савеце пытаньне аб скасаваньні нашага канстытуцыйнага палажэньня аб імкненьні да нэўтралітэту і бязьядзернай дзяржавы. Імкнуцца зьнішчыць гарантыю нашага незалежнага мірнага міжнароднага існаваньня. Больш таго, стараюцца зьнішчыць асновы нашай дзяржаўнасьці і культурнага разьвіцьця, грамадзянства Рэспублікі Беларусі і дзяржаўнасьць беларускай мовы. Прыдумваюцца розныя міты накшталт пагрозы Беларусі з боку НАТО ці немагчымасьці эканамічных дачыненьняў з Расеяй без ваеннага саюзу, дагавору аб калектыўнай бясьпецы.

У чым жа прычына? Хто зацікаўлены ў такой палітыцы, адкуль яна зыходзіць? Што датычыць Старшыні Савету Міністраў, які адказны за правал рынкавых рэформаў і тупіковы стан эканомікі,—тут усё зразумела. Прыдумваецца чарговая дымавая заслона, каб пазьбегнуць адказнасьці.

А вось пазыцыя ўраду Расеі, выказаная 30 сакавіка віцэ-прэм'ерам А. Шохіным на прэс-канфэрэнцыі: «Мы не ставим вопрос об экономическом союзе—это инициатива Беларуси и Казахстана»... І далей: «Мы переходим со всеми странами СНГ на нормальные торгово-экономические отношения как со странами дальнего зарубежья. России это выгодно экономически». І далей зноў пра калектыўную бясьпеку: «Я впервые слышу такое настойчивое предложение с вашей стороны».

Як бачым, пазыцыя ясна акрэсьленая. Тады, можа, без ваеннага дагавору ня можа існаваць на Беларусі былы савецкі вайскова-прамысловы комплекс? Яны тут выступалі і казалі—ня можам, маўляў, без ваеннага саюзу няма заказаў, заводы спыняцца.

Але адгорнем дагавор паміж Беларусяй і Расеяй «Аб каардынацыі дзейнасьці ў ваеннай галіне», падпісаны спадаром Кебічам 20 ліпеня 1992 г. і ратыфікаваны Вярхоўным Саветам Беларусі. У арт. 5 напісана: «Бакі забясьпечваюць разьмяшчэньне заказаў Міністэрствам абароны бакоў на заводах прамысловасьці і прадугледжваюць меры па іх выкананьні».

Дык чаго ж вам яшчэ трэба, спадары камісары ВПК? Чаму вакол усе гаварыць няпраўду? У чым рэч? Тым больш што вайскова-прамысловы комплекс Расеі ня ў меншай ступені залежыць ад нашых вытворцаў (больш чым на 60%). А падводныя лодкі, расейскі флёт амаль цалкам залежыць ад многіх нашых паставак.

Рэч у тым, што беларускія намэнклятурныя артадоксы зрабілі стаўку на авантурныя сілы Расеі, якія імкнуцца адрадзіць КПСС, Савецкі Саюз, халодную вайну, савецкую таталітарную сыстэму. І спадзяюцца на пэўныя колы старадумнай расейскай ваеншчыны, якая не хавае сваіх намераў.

Тым часам сытуацыя ў расейскіх узброеных сілах катастрафічная. Армія не ўкамплектаваная. Гэтай вясной у Расеі, па афіцыйных зьвестках, змогуць набраць толькі 16% прызыўнікоў. Міністр абароны Расеі П. Грачоў гаворыць: «Если дело так пойдет и дальше, то к 1995 году российских войск в «горячих точках» просто не будет. Пусть тогда политики думают, как обеспечить стратегические интересы России».

Ва ўсёй кампаніі з калектыўнай бясьпекай і з ваенным дагаворам у расейскай ваеншчыны, акрамя геапалітычнага, ёсьць трывіяльны інтарэс—гэта інтарэс гарматнага мяса для «горячих точек» і «стратегических интересов России». Гэты інтарэс спрабуюць закамуфляваць за нейкімі агаворкамі, абзацаньнямі для прасьцячкоў аб непасыланьні салдат за межы Беларусі і да т. п.—прыём непрыстойны і ашуканцкі. Зразумела, што як толькі нашай краінай будзе заключаны ваенны дагавор аб калектыўнай бясьпецы з краінамі СНД (Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Расеяй, Таджыкістанам, Узбэкістанам), нашыя грамадзяне апынуцца ў «гарачых кропках».

За што вы, кіруючая большасьць у Вярхоўным Савеце, хочаце зноў праліваць беларускую кроў? За чыю выгаду? Хіба Беларусь мае стратэгічныя інтарэсы ў Азіі, на Каўказе, на таджыцка-аўганскай мяжы? Куды вы штурхаеце наш народ? Нам трэба мець тавары, працу, сацыяльныя гарантыі, свабоду, жыць і працаваць на сваёй зямлі. У нас няма стратэгічных інтарэсаў ні ў Азіі, ні ў Расеі. І ня трэба ўцягваць нашу краіну ў чужыя камуністычныя авантуры.

Падпісаўшы дагавор аб калектыўнай бясьпецы, мы павінны будзем выконваць яго яшчэ да ратыфікацыі. Гэта міжнародныя нормы, і гэта элемэнтарна. Больш таго, тут спасылаліся на ўнутранае заканадаўства, якім, спадзяюцца, будуць кіравацца. Нічога падобнага. Міжнародныя законы, міжнародныя дагаворы маюць прыярытэт у такіх адносінах. Тым больш, што згодна таму ж артыкулу 6-му вырашаць будуць кіраўнікі дзяржаваў—пасылаць ці не пасылаць войскі ў тую ці іншую «кропку». Гэта значыць, што ў нашай дзяржавы будзе толькі адзін голас. Я ўжо не кажу пра тое, што будзе Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі.

Існуе прысяга, існуе прызыў. І хто будзе адказваць, калі нашыя салдаты, нашыя грамадзяне загінуць дзе-небудзь у Абхазіі? Эрых Хонэкер ці Леанід Ільіч Брэжнеў, які падпісаў рашэньне Палітбюро і накіраваў салдат у Аўганістан? А адказнасьць павінна быць канкрэтнай, і адказваць будуць, безумоўна, тыя палітыкі, якія гэтае рашэньне прымаюць.

Цяпер паглядзім на геапалітычную сытуацыю. Уявім, што Беларусь адмовілася ад нэўтралітэту і заключыла ваенны дагавор з Расеяй. А як да гэтага паставіцца Украіна? Як паставяцца нашыя суседзі? Можа, незразумела, які ўсталюецца рэжым на межах зь імі? Можа, незразумела, зь якога моманту пачнецца інкарпарацыя тэрыторыі Беларусі ў сфэру палітычнага распараджэньня Расеі? Мы станем тэрыторыяй супрацьстаяньня.

Тут гаварылася, што дэпутаты камуністычнай большасьці вельмі любяць ездзіць у НАТО. Я растлумачу, чаму яны любяць туды езьдзіць. Я там быў і таксама размаўляў з натаўскай бюракратыяй. Яна зацікаўлена ў тым, каб утвараўся такі саюз. Яна зацікаўлена ў супрацьстаяньні, таму што НАТО няма чаго рабіць, калі скончацца канфлікты ў Босьніі і Герцагавіне. Тады ў іх ізноў узьнікнуць праблемы. Справа ня ў тым, што сама НАТО зацікаўлена ў нашым ваенным дагаворы з Расеяй. НАТО ніколі такога ня скажа адкрыта. А вось натаўская бюракратыя зацікаўленая. Ня дзіва, што вы знайшлі агульныя інтарэсы.

А як паставіцца да адмаўленьня Беларусі ад сваіх нэўтральных прынцыпаў Эўропа, міжнародная супольнасьць? Здрада нэўтралітэту аўтаматычна пацягне за сабой зьнікненьне бязьядзернага статусу. Няўжо гэта незразумела? Якую ж тады пэрспэктыву нашай дзяржаве рыхтуюць спадары змоўшчыкі? А гэта сапраўды змова, змова супраць Беларусі.

Тут спадар Кебіч грымеў філіпікамі ў адрас Беларускага Народнага Фронту. Маўляў, і ўрад крытыкуюць, і ў эканоміцы не разьбіраюцца. Наконт «разьбіраньня ў эканоміцы» Вам, шаноўны Старшыня Савету Міністраў, лепш было б памаўчаць. Вынікі Вашага разуменьня эканомікі відавочныя. Наша насельніцтва ўжо чэрпае з гэтых вынікаў поўнай чашай. У Вас няма нават ніякай праграмы, пляну, ніякай эканамічнай канцэпцыі, ніякага здаровага сэнсу. Вы не прыслухаліся ні да адной разумнай парады, якія Вам казалі. Дарэчы, усе эканамічныя прагнозы Апазыцыі БНФ спраўдзіліся. Усе псэўдапачынаньні ўраду праваліліся. Гэта ж факт.

Імклівае падзеньне пачалося з 1992 году, калі Ваша палітычная бязьдзейнасьць уцягнула нас у шалёную інфляцыю. Я памятаю, як ліха выступалі Вы тады ў парляманце пад гром апладысмэнтаў. І што ж цяпер? Гэта Вы, спадар Кебіч, Вашай бяздумнай эканамічнай палітыкай паспрыялі ператварэньню ў пыл грашовых укладаў насельніцтва, што адным махам кінула наш народ у нястачу. А цяпер Вы адшпільваеце падачкі пэнсіянэрам—праезд бясплатны, 300 рублёў на беднасьць. Усё гэта зараз дапамажа, як мёртваму прыпарка.

Так, Вы зразумелі, што зайшлі ў тупік. Але мяне зьдзіўляе ня столькі Вашая ўпартасьць не прызнаваць гэтага, колькі гатоўнасьць дзеля свайго выратаваньня ахвяравацца нашымі важнейшымі палітычнымі каштоўнасьцямі: нэўтралітэтам, бязьядзернасьцю, а ў выніку сувэрэнітэтам і жыцьцямі людзей.

Беларусі не патрэбны ніякі ваенны саюз, ніякі дагавор пра калектыўную бясьпеку. Ня трэба ўступаць ні ў які ваенны блёк. Само геапалітычнае разьмяшчэньне нашае краіны ў цэнтры Эўропы, паміж Усходам і Захадам, прымушае нас трымацца нэўтралітэту. Гэта—гарантыя спакою, стабільнасьці для народу Беларусі. Нэўтралітэт ужо апраўдаў сябе. Нельга ў чарговы раз паддавацца на камуністычную авантуру. Гэтыя авантуры нічога не прынесьлі нашаму народу, акрамя праліцьця крыві, зьнішчэньня, разбурэньня і зьнявагі нас як народу. Пра гэта трэба памятаць і не забываць.

## ДА ТАВАРЫШАЎ

Нінаандрэевы,
Сажы,
Бабурыны,
чым жа так вы,
паночкі,
абураны?
Супакойце
партыйны
парыў.
Ці ж не вамі
народ наш
абдураны,
летуценнікам
вашым
ачмураны?
Ці ж не вамі
САЮЗ ВАШ
разбураны?
Мала лёсаў
КАСТРЫЧНІК
спаліў?!
Са сваімі
парожнімі
крамамі
і сваімі
партыйнымі
храмамі
вы абрыдлі,
як смецце
ў двары.
Харчаваліся
хоць
буракамі мы,
хоць лічыліся
ў вас
«дуракамі» мы,
скажам цвёрда
усім
апантаным мы:
хопіць нас,
праваслаўных,
дурыць...

**Анатоль КАРЧЭЎСКІ,**
**красавік 1993.**

## Пастухам весела...

З даволі вялікім будынкам з белай цэглы, што знаходзіцца паўз дарогі Сянно—Нямойта, мясцовы люд звыкся даўно. Быў такі час у пачатку сямідзесятых, калі для рабрыстых калгасных рагуль узводзілі такія харомы.

Але й іх, як гаворыцца афіцыйна, буйных рагатых, не абышлі без увагі тагачасныя ідэолагі. Вартаецца статак з пашы, а яго вітае велічны заклік: «Слава ЦК КПСС!» Менавіта так і напісана: «ЦК».

Каровам, канечне, на ўсё гэта напляваць. А вось пастухам калгаса з назвай «Кастрычнік» Сенненскага раёна весела.

**І. ЛАЗУКА.**



Фота А. Мемуса.

Ураган.

*Рэпліка*

## Радыёпеленгатар—спартсмен,

а зусім не прыёмнік, сцвярджае 6 траўня 1993 г. газета «Віцьбічы». Але галоўнае ў газетным артыкуле не гэтае.

Вучаніца СШ № 33 Паліна Хлопкава, якая перамагла у асабістым першынстве па радыёпеленгацыі («паляванне на лісаў») сярод спартсменаў гарадоў Беларусі на спаборніцтвах у Салігорску, са здзіўленнем даведалася з выдання, што існуе іншая прэтэндэнтка на ...яе, Паліны, перамогу.

Мусіць, дарослыя чытачы ўжо звыкліся з частым перакручваннем фактаў, якое дазваляюць сабе «Віцьбічы». Але можна ўявіць крыўду дзяўчынкі, што не прывыкла шчэ да несправядлівасці.

Рэдакцыя «Выбара» выпраўляе памылку, зробленую іншаю газетаю, і зычыць Паліне далейшых спартыўных поспехаў.

**М.К.**

# Язэп Драздовіч. Асоба. Творчасць

## Язэп Драздовіч (1888—1954)

**У сучасным беларускім мастацтве Язэп Драздовіч—асоба самабытная, шматгранная, дагэтуль неспазнаная. Ён быў графікам, жывапісцам, разьбяром, пісьменнікам, збіральнікам фальклору, археолагам, настаўнікам.**



**Нарадзіўся Язэп Нарцызавіч Драздовіч 1(13) кастрычніка 1888 г. у засценку Пунькі Дзісненскага павета Віленскай губерні. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Дзісне, у 1906—10 гг. вучыўся ў Віленскай мастацкай школе праф. І. Трутнева. Станаўленне і першыя крокі Я. Драздовіча ў мастацтве прыпадаюць на гады адраджэння беларускай культуры і цесна звязаны з творчай працай Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алаізы Пашкевіч, Ядвігіна Ш., Ігната Буйніцкага, Антона Грыневіча.**

**Першыя датаваныя творы мастака—афармленне вокладкі «Беларускага календара на 1910 г.», першай кнігі беларускай паэтэсы К. Буйло «Курганная кветка» (1914 г.).**

**У 1926—30 гадах Я. Драздовіч—выкладчык Віленскай, Навагрудскай беларускіх гімназій. Штолета мастак вандруе па Беларусі, пасля чаго нараджаюцца графічныя серыі, альбомы, акварэлі, з якіх жыва паўстаюць беларускія краявіды, выдатныя помнікі дойлідства ў Вільні, Троках, Лідзе, Навагрудку, Міры, іншых старажытных мясцінах роднага краю.**

**У 1930 г. польскія ўлады зачыняюць Навагрудскую гімназію і з гэтага моманту да апошніх сваіх дзён Драздовіч—вольны мастак, знаёмы і блізкі працоўнаму люду дзядзька Язэп.**

**Я. Драздовіч адзін з першых у беларускім мастацтве шукае вытокі гісторыі народа. Вобразы Францыска Скарыны, Усяслава Чарадзея, Баяна, сівая мінуўшчына Полацкай зямлі, уваскрэсшая на палотнах,—гэта святая памяць і любоў мастака.**

**Ненатольная прага спазнаць Сусвет выяўляецца ў творах касмічна-фантастычнай тэматыкі: «Жыццё на Марсе», «Жыццё на Месяцы», «Жыццё на Сатурне». І ў навукова-папулярнай кнізе «Нябесныя бегі» (1931, г. Вільня) мастак спрабуе адкрыць сваёй інтуіцыяй, фантазіяй таямніцу нябёс.**

**Руплiва працаваў Я. Драздовіч у Віленскім беларускім музеі, папаўняючы яго археалагічнымі знаходкамі, этнаграфічнымі занатоўкамі, творамі народнага мастацтва. Тут знайшлі ганаровае месца і шмат якія творы самога майстра.**

**Землякі Я. Драздовіча помняць яго і разьбяром па дрэве, і настаўнікам, і шчырым дарадцам. А маляваныя дываны, створаныя нястомнымі рукамі дзядзькі Язэпа, і зараз можна сустрэць у вясковых хатах Глыбоччыны.**

**А. МАРАЧКІН,**
**сябра Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь.**

## Да 105-й гадавіны

**Гэты год знамянальны. Такія словы чуеш штогод. Але сёлета ён, пэўна, сапраўды стане знамянальным. Упершыню на Віцебшчыне адзначаецца юбілей з дня нараджэння Язэпа Драздовіча, знакамітага беларускага Мастака, Творцы, Асобы. Адзначаецца так шчыра, святочна, адкрыта.**

**Не абыходзім і мы, газетчыкі, гэтую дату. Па просьбе Віцебскага абласнога цэнтра народнай творчасці змяшчаем шэраг творчых прац Я. Драздовіча, якія, на жаль, малавядомыя нават навукоўцам, бо захоўваліся ў архівах.**

## З нівы беларускага мастацтва

У пару, калі—як здаецца—пачынаецца беларускі рэнэсанс-адраджэньне, з затаенным дыханьнем чакаем мы мастакоў вялікае ідэалёгіі, якія збудзяць заспаную народную творчасьць.

Такое велізарнае засільле духа на творчай дарозе да адраджэньня выказывае нам у мастацкіх абразох сваіх беларускі маляр-артыст Драздовіч. Ня меў я магчымасьці абняць цэласьці яго духовай творчасьці, даволі плоднай і багатай. Але і тое, што бачыў, дало мне столькі задумы, што аж мушу гэтым падзяліцца з тымі, каму дорага кожная хваля нашай духовай творчасьці.

Драздовіч знае напрамкі найнавейшых малярскіх школ. Бярэ з іх найбольш характэрную для беларусаў: экспрэсыёністычную сымболіку. Пры яе помачы стварае цэлыя кампазыцыі, што абымаюць ледзь ня ўсю ідэалёгію сучаснай Беларусі. Хто ўгледзіцца ў яго абразу Пагоні, знайдзе там і мэту, і церні, і злыдні мучэньня душы беларускай,—душы адважнай з разгонам Прамэтэя і з мукай Танталя. У абразе з 1922 году, маляваным, здаецца, пад уражаньнем рыскага трактату, Драздовіч замкнуў сынтэзу цэлага сучаснага беларускага гора: гора раздзелу жывога цела на ўсход і захад. Беларусь аднак жыве. Дух ягоны (гэні) над гідрай імпэралізму вызваліўся між пажарышч уласнай будоўлі і ўглядаецца ў сінюю даль здвояным зорам Усходу і Захаду: у даль, дзе відзіць сьвятыню духа, рэалізацыю вялікай ідэі,—Беларускі Народны Дом. Над сьвятыняй зор божага Огляду спачывае, спагадна ўглядаючыся ў крывавую ніву творчага змаганьня: зор гэты повен неадгаднай Прамудрасьці. Абраз у цэласьці служыць сынтэзай сучаснае Псыхэ беларускай, панятай у найглыбейшым сэнсе.

Тэхніка выкананьня абразу выдзержыць крытыку найбольш выбрэднага эстэтыка, а есьлі каму і непанятна на першы погляд сымболіка, то вінавата тут напэўна не экспрэсыя ці імпрэсыя маляра—даволі простага ў сваёй інвэнцыі.—Сымболіка рэч цудная, а цуды аглядаць ня ўсім можна: патрэба на тое асобага складу душы. Мастак, што творыць вялікія духовыя вартасьці пры помачы ігры сьвятла і цені рожнафарбных матываў—вось тварэц цуду: цуду незразумелага для маладушнага натоўпу, катораму мастачы сказаць можа заўсёды: «Не кідайце пэрлы для парсюкоў».

Апроч матываў народных у шырокім сэнсе гэтага слова, Драздовіч пераносіцца і ў сфэру агульна-людзкага імкненьня. Такімі пазнаў я тры абразы: 1) «Зямля»—2) «Вечная Будыніна»—3) «Рэвалюцыя і Эвалюцыя». Першы абраз пераносіць нас у сфэру прабыту і найдалейшую канцэпцыю творчасьці на зямлі, калі «Дух божы ўнасіўся над вадамі». Сымболіка абразу мае матывы біблійныя, снаваныя на даных сучаснае навукі аб істоце матэрыі і духа. Абраз імкнецца выказаць нейкую ледзь адгадную трагэдыю людзкага быту на зямлі. Другі абраз—«Вечная Будыніна»—прадстаўляе антытэзу часу і вечнасьці. «Эвалюцыя і Рэвалюцыя» выясньняе дарогу, у якой адбываецца разьвітак культуры. Дзьве сілы даюць тут быт рэальны сымбалізаваны з аднаго боку львом, з другога чалавекам, Сіла льва творыць моцна, але будыніна зарысовываецца і сфінкслеў валіцца. Сіла людзкага гэнія гэта сіла найрэальнейшая: сфінкс з тварам чалавечым перамагае. Ён цьвёрда стаіць на крушнях—пажарышчах вяковых і зорам пэўным угледаецца ў ледзь павідную даль-будучыну.

Наагул абразы Драздовіча будзяць паважныя настроі. Артыст—як відаць—шмат перажыў,—магчыма, што перайшоў усю гіэну шуканьня ідэалу—і вось прычына, дзеля якой узяў сымбалізм аружам для заховываньня паасобных фрагмэнтаў сваёй буйнай філёзофіі жыцьця. Пашчасьліў яму, божа, бо талент гэты немалы і дачакае пэўна належнай ацэны. Драздовіч паміма так глыбокага зьместу свайго мастацтва мае капітальную гумарыстыку (творыць тыпы карыкатуральныя). Гумар яго тым дзіўнейшы, што варункі, у якіх жыве артыст, не дастаўляюць вясёлых настрояў. Цяжкае матэр'яльнае палажэньне нашага шматнадзейнага мастачага адбіваецца, аднак, на яго творах: шмат канцэпцыі недаводзіцца да канца, або выконваецца надта прымітыўнымі пасьпешнымі сродкамі. Гэтае цяжкае палажэньне змушае яго для сумнай для мастака залежнасьці, есьлі не ідэйнай, дык прынамся партыйнай («Wyzwolenie»). Але чалавек, што творыць у абразох сынтэзу беларускай духоўнай ідэалёгіі, не запрадасьць ніколі сваей думкі. Прыпамінаю тут адзін верш Купалы, у каторым ён дзякуе за хлеб-соль паном, што хацелі купіць яго талент. У творчасьці артыстычнай няма ніякай сымоніі, бо артыст нікому не падлягае. Драздовіч, калі пойдзе шляхам сваёй жывой творчасьці, мае будучыну вялікую. Магчыма, што ён створыць сымболь душы сучаснага адраджэньня. Гэта дало б яму права быць адным з гэніяльных волатаў, якія паявяцца на векавой беларускай мартыралёгіі. Руіны і пажарышчы—частыя матывы ў яго творчасьці. Ня дзіва. Вайна—гэта банкроцтва старых вартасьцей, банкроцтва думкі філёзофічнай XIX сталецьця, а нават банкроцтва усёй мяшчанскай псэўдакультуры. Наш артыст-маляр ня толькі ўгледаецца ў вялікія намэты ідэйныя беларускай душы: голас яго нясецца з бяздоньня атэізму ўзвыш, дамагаючыся з неба павароту запрочанай язьні людзкой. Агульна-людзкія ідэі нашага мастачага адчыняюць перад ім шырокі кругазор творчай інвэнцыі. Беларусь чакае ад яго многа і не павінна памыліцца.

**К. Св.**

**Часопіс «Студэнская думка». Месячнік беларускага студэнства ў Вільні. № 1. Студзень 1925 г.**



Я. Драздовіч. Пагоня, 1921 г.

# ТЭОРЫЯ РУХАЎ. АБ РУХАХ НА АГУЛ

**Пытаньне.**
—Ці ёсць дзе што ў нябесным прасторы бяз руху, нярухомым?

**Адказ.**
—Німа нідзе нічым бяз руху, нярухомага, усё што ў руху, толькі адзін сам нябесны прастор стаіць незварушным, а ўсё што знаходзіцца ў ім,—у руху. І наша Зямля зь Месяцам у руху, і кругом саміх сябе (на восі) і навокал Сонца, і разам із Сонцам, якое разам са ўсёю сваёю сыстэмай планэт кудысь імкнецца—так сама ў руху, кудысьць імкнуцца, кудысьць лятуць,—як і сам сьвет ад іх, пралятаючы па 300000 кілёметраў у сэкунду. І ўзаемацяжнасьць між імі, як і цяжарацяжнасьць у іхных массах, і электрамагнітныя токі што паходзяць ад Сонца калі на ім разьвіваюцца плямы ды вызываюць на нашай планэце Зямлі магнітныя буры,—так сама да руху належуць, так сама зьяўляюцца рухам.

І камень, які ляжыць, і дом які стаіць як нярухомыя,—так сама ў руху, і лятуць адносна нябеснага прастору,—за адно із Зямлёю.

І гара, якую мы лічым нярухомай, прыкутай да массы Зямной, так сама ляціць у нябесным прасторы і прабляець тыя самыя рухі, што й сама нашая Зямля. Зямля робіць нутрамассавыя сэйсмаграфічныя здрагі і гара здрыгаець. Зямля самаакручваецца на сваёй восі і гара разам зь ейнаю паверхняй.



Я. Драздовіч. Космас.

Зямля робіць свой гадавы кругазварот навокал Сонца і гара зь ёю. І Сонца не стаіць,так сама кудысьць імкнецца ў нябесным прасторы разам са сваёю сям'ёю планэт, між якімі і з нашай Зямлёю і гара зь імі разам. Зямля ўзаемацяжнічаець із іншымі планэтамі і гара разам з массаю Зямлі прынімаець у гэтым свой удзел. Пласты Зямной кары ўзаемацяжнічаюць праз цэнтр Зямной кулі з антыподнымі пластамі і гара прынімаець тут у гэтым свой удзел, ды імкнецца разам з пластамі Зямлі як важкасьць цяжару ўніз. Бо вага цяжару так сама да руху належыць, як і само імкненьне.

Усё што імкнецца або цісьнець,—яно ўсё ў руху, бо само імкненьне ня ёсьць штось іншае як рух.

Апрыч усяго гэтага ў дадатак, гара дадаець ад сябе да цяжарацяжнасьці Зямной кулі і яшчэ свае ўласныя сваеасаблівасьці, а іменна: Яна сваімі схонамі адзьдзіляець напрамак ад цэнтру зямной кулі, лінію адвесу, або лінію паду вагі цяжару. А на сваім версе да гэтага цяжару дабаўляець ад сябе яшчэ і вагі, так што чым вышэйшая гара, тым большая на ейным версе вага цяжару. Бо сама гара зьяўляецца як бы надбаўкай да радзіуса вялічыні Зямной кулі.

Цяжар і вага цяжару, так сама належуць да руху, як удзельнікі руху,—бо на іх трымаюцца ўсялякага роду ўзаемацяжнасьці і нутрамассавая разгонная сіла руху, на якім базіруецца ўсялякага роду цэнтрабежнасьць. А на ўзаемацяжнасьці, на разгоне вагі цяжару і на цэнтрабежнасьці яго,—базіруюцца усе рухі нябесных цел, ня толькі вонкавыя праз адлегласьць, але і нутрамассавыя, нутразямныя.

Вага або важкасьць цяжару, у нябеснай мэханіцы іграе вялікую роль, а асабліва ў разгоннай сіле або цэнтрабегу. Цэнтрабег жа як і ўзаемацяжнасьць,—ён не адзін як гэта раней думалі, што ён толькі ў суцэльнасплочанай массе пры кругвасёвым руху гэтай массы.

Узаемацяжнасьцяў дзьве: адна ўзаемацяжнасьць водлегласьцявая, на якой базіруюцца рухі нябесных цел разлучных прасторам. А другая ўзаемацяжнасьць нутрамассавая, на якой базіруецца акругляснасьць або кулявастасьць нябесных цел.

Так сама і два цэнтрабегі. Адзін цэнтрабег нутрамассавы, калі масса ў кругавасёвым руху або самаакручваньні. Другі ж цэнтрабег адлегласьцявы, калі два нябесных цялы, адно большае, а другое меньшае, і калі меньшае абягае большае навокал, як бы на прывязі праз узаемацяжнасьць з большым, ды ніяк ад большага адарвацца не ў стане. Як неімкнецца адляцець, а ня ў сілах адарвацца. Бо кожнае імкненьне па простай лініі напрамку—выйсьці з кругабегу,—гэта ўжо ёсьць няшто іншае як цэнтрабег.

На ўзаемацяжнасьцях, на імкненьнях разгону і на цэнтрабегах,—пабудавана ўся нябесная мэханіка. Але зьверх усяго гэтага ёсць яшчэ на ўсё гэта і Гармонія.

* * *

...Ёсьць нейкая незразумелая для нас таямнічая сіла, якая кіруе гармоніяй рухаў нябесных цел...

**З фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН Рэспублікі Беларусь.**

---

## Я. ДРАЗДОВІЧ-НАРЦЫЗАЎ

# Гарадзішчанскае

I

Старана мая
Старасьвецкая
Ты была калісь
Маладзецкая

Ты была калісь
Маладзецкая
І адважная
І лавецкая

Са зьвяр'ём ражном
Паляўнічая
З лютым ворагам
Ваяўнічая

Ваяўнічая
Ды харобрая
С кім у загрудкі
А с кім добрая

У правах сваіх
Вечавалася
Пад прымус ярма
Не давалася
Ні здавалася
Ні карылася
З лютым ворагам
Ня мірылася

Ня мірылася
Адбівалася
За чужой сьпіной
Ні хавалася

Ні хавалася
Ні прасілася
Колькі сіл-мела
Баранілася.

* * *

II

На гарах тваіх
Па-над водамі
Дзе жылі калісь
Людзі родамі

Рыбаловілі
Ды змагаліся
Гарадцоў сьляды
Пазасталіся.

III

Нашы прадзеды
Жылі ловамі
Прыбылі сюды
Рыбаловамі

Ні сухім пуцём—
Калясьніцамі
А рачным пуцём,—
Больш дубіцамі

Па ўзьбярэжжам
Рэк зьяўляліся
Сярод пушч-лясоў
Разселяліся

Пасяляліся
Племем-родамі
Па лясах-барах
Па-над водамі.

Па-над водамі
Над азёрамі
А іх селішчы
Былі горамі

Былі горамі
Касагорамі
Ды з адкопамі
С перакопамі

Узвышаліся
Над лажышчамі
Называліся
Гарадзішчамі

* * *

IV

Гарадцы твае
Гарадзецкія
Гэта гнезьдзішчы
Маладзецкія

Гэта гнёзды дружын
Сакалінныя
Што рабілі налёты
Арлінныя

Раць варожую
Пераймаючы
Шляхі доступу
Адцінаючы

Пераймаючы
Праганяючы
Жах на ворага
Наганяючы

Баранілі (свой) край
Ад замежнікаў
Чужаплеменцаў
І грабежнікаў

* * *

V

Паміж селішчаў
З гарадзішчамі
Весяліўся народ
Твой ігрышчамі.

Весяліўся гуляў
Карагодамі
Дружбай дух падымаў
Паміж родамі

Весяліўся вясной
Ляды палючы
Поле чыстае
Разрабляючы

Весяліўся яго
Засеваючы
Лета цёплае
Спатыкаючы

Лета цёплае
Спатыкаючы
Па гарах агні
Ноччу палючы

Весяліліся
Ловы правючы
Весяліліся
Іх канчаючы

Весяліліся
Мёд зьбіраючы
Дзядоў прадзедаў
Памінаючы

Хто й радзіліся
Хто й жаніліся
Хто й памёр па ім
Весяліліся.

Весяліліся
Трызны правючы
Валатоўкі магіл
Нарываючы

С карагодамі
Агні палючы
Мяды хмельныя
Расьпіваючы

Гусьляры дудары
Напеваючы
Весялілі народ
Нясьціхаючы.

VI

Па тваіх лясах
Медзьвядзі раўлі
Па палях лугах
Стады стад брылі

Туры лавамі
Зубры стадамі
Козы дзікія
Беглі лядамі

Ласі промецьцю
Рагі ронючы
А за імі ў скач
Нехта гонючы

Чалавек іх гнаў
На кані ліхім
З лука стрэламі
Наганяў страх ім.

VII

Кабаны-дзікі
Між дубровамі
Барацьбу вялі
На іх ловамі

На лаўцоў-стральцоў
Накідаліся
З дзікім рохатам
Не даваліся

* * *

VIII

На палях тваіх
Каля селішчаў
Што складаліся
З ляд-папелішчаў

Ячмяні жыты
Каласіліся
Песьні жаўранак
Разнасіліся.

Каршуны арлы
Ў небе сьвішчучы
Кружыняліся
Афяр рышчучы

А кругом сьцяной
Хвоі гонкія
А на хвоях тых
Пчолкі звонкія

У борці мёд нясьлі
Раі ладзючы
Медзьвядзёў на мёд
К сабе вабючы.

**Восень 1936 г.**

### Моўкніць звон-ізбор Вольнай вольніцы

I

Гэй ты Полацак!..
Ты слаўнае места
С часоў Усеслава
І гордай Рагнеды
І добрай Прадславы...

На ім княжылі
Ізяславічы
Як любімыя
Род свой славючы

Скарына адсюль
Муж з навукамі
Што праславіўся
Кнігадрукамі

II

Гэй ты Полацак
Места слаўнае
Ад сівых вякоў
Старадаўняе.

Старадаўняе
Гарадзецкае
Тваё пройшлае
Маладзецкае

Валадар Дзвіны
І з Бярозаю
Для чужых-ліхіх
Быў пагрозаю

Бараніў наш край
Ад замежнікаў
Самаўладнікаў
І грабежнікаў.

Занімаў пасад
Места стольнае
С правам голасу
Веча вольнага

Веча вольнага
Права спраўнага
Як народнага
Старадаўняга

Гудзеў звон-ізбор
Тут гукаючы
Грамадзянь на сход
Сазываючы

Тут сходзіліся
Нараджаліся
Крывічоў сыны
Мужы вольныя

Гэй ты Полацак
Места слаўнае
Гарадзецкае
Старадаўнае

Дзе званы твае
Вечазборныя?!
Гарады-браты
Непакорныя?!

Побач з ім Смаленск
Над сівым Дняпром
Як брат Полацка
Вёў свой торг дабром

(Заканчэнне на 5-й стар.).



Я. Драздовіч. Гарадзец.

*Пачытайце дзеткам вершы*

Ягор КАСЯКОЎ

## Курыны хор

Кожны дзень спявае хор,
Ім кіруе дырыжор.
Выступаюць тут квактухі,
А вакол лятаюць мухі.

Тхор з адчыненых дзвярэй
Паглядае на курэй,
Хоча, пэўна, пажывіцца,
Але пеўніка баіцца.

Пеўнік—добры запявала.
Для яго патрэбна зала,
А не гэты брудны двор,
Дзе спыняе песню тхор.

Куранятки шчэ не пелі,
Бо ў харчэўні кашу елі.
Ім на хор ісці пара,
Але боязна тхара.

Пеўнік гучна ў бубен б'е,
Куранят спяваць заве.
А бадзяжнага тхара
Ён ужо прагнаў з двара.

Куры пеўня пахвалілі,
Новы бубен падарылі.
І цяпер курыны хор
Зноў спявае на ўвесь двор.

## Лясныя навіны

Белабокая сарока
На сасне сядзіць высока,
З перапынкамі стракоча—
Расказаць навіны хоча.

Лес прыгожа апрануўся.
Салавей з гасцей вярнуўся,
За ракой цяпер жыве,
Песні новыя пяе.

Зацвілі лясныя зёлкі,
Каля іх лятаюць пчолкі.
А ў цішы вісіць калода,
Пэўна, зроблена для мёда.

Зёлкі—ёсць расліны—лекі.
Іх збіраюць для аптэкі.
Шмат у лесе сыравіны—
Вось і ўсе, амаль, навіны.





**Надоўга запомняцца маленькім віцяблянам вялікія радасці Свята беларускай лялькі, што прайшло ў Віцебску: і катанне на вярблюдах, і бясплатнае марожанае.**

## Каб стала нацыя вучонай

**4—5 траўня ў Менскім радыётэхнічным інстытуце адбывалася навукова-метадычная канферэнцыя «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ».**

Тэзісы сваіх спавешчанняў прадставілі каля 300 удзельнікаў, сярод іх акадэмікі, дактары навук, прафесары, дацэнты і асістэнты. Вітаючы ўдзельнікаў канферэнцыі, Ніл Гілевіч назваў яе гістарычнай падзеяй. Можна бясконца збіраць подпісы, накіроўваць лісты, ладзіць мітынгі—ды справа адраджэння Мовы не скранецца з месца, пакуль за гэта не стане змагацца тэхнічная інтэлігенцыя. Бо ўсё ж менавіта з ёю звязваецца мажлівасць эканамічнага росквіту краіны ў будучыні. І тут важна далікатна ўплесці ў гэты працэс дзяржаўную мову. Як слушна зазначаў венгерскі мысляр XVIII стагоддзя Дзёрадзь Бешэнэі, «ніколі на зямным шары нацыя не аваладвала мудрасцю, глыбінёй, пакуль не ўцягвала навукі ў родную мову. Любая нацыя становіцца вучонай на сваёй мове і ніколі—на чужой».

Праца канферэнцыі вялася ў пяці секцыях: тэхнічныя навукі; фізіка; матэматыка; геаграфія і эканоміка; хімія, біялогія і медыцына. Навукоўцы абмеркавалі канцэптуальныя праблемы ўкаранення беларускай мовы ў навучальны працэс, пытанні навуковай тэрміналогіі, методыкі выкладання асобных тэм. Тут дарэчы будзе згадаць спавешчанні выкладчыкаў віцебскіх ВНУ С. Пазойскага і Ф. Коршыкава (фізіка), М. Вараб'ёва (матэматыка), Я. Карабёнка (матэматыка), Г. Шапо (медыцына), Л. Вардамацкага (біялогія), Т. Царэнка (біялогія), А. Хлопцава, В. Пауленка і Т. Карнавушанка (медыцына). Як высветлілася, Віцебскі дзяржпедінстытут з'яўляецца бясспрэчным лідэрам у перакладзе навучальных камп'ютэрных праграм на беларускую мову. Гэтая акалічнасць у пэўнай ступені падняла аўтарытэт ВДПІ ў вачах грамадскасці, грунтоўна сапсаваны нядаўнім зборам подпісаў у гэтай ВНУ за наданне расейскай мове статуса другой дзяржаўнай мовы на Беларусі.

Спадары выкладчыкі, настаўнікі, даследчыкі, навукоўцы! Запрашаем вас да плённага супрацоўніцтва. На кафедры хіміі ВДПІ вы можаце пазнаёміцца з тэзісамі згаданай канферэнцыі. На вашыя дыскеты будуць бясплатна перапісаны ўсе наяўныя беларускамоўныя праграмы з умовай такога ж бясплатнага іх далейшага распаўсюджання і з увагай сустрэты файныя навучальныя праграмы, вартыя перакладу. Чакаем цікавых прапаноў. Тэлефон 5-33-52.

**Уладзімір СЛАБІН.**

*Гэта наша гісторыя*

# «Княжанні», гарады, Полацкая зямля

Летапіс сведчыць, што ў крывічоў, дрыгавічоў і іншых славянскіх плямёнаў былі свае «княжанні». Яны ў крывічоў, радзімічаў і дрыгавічоў былі, верагодна, яшчэ да перасялення гэтых плямёнаў на Беларусь. Пра тое сведчыць упамінанне ад 685 г. пра сваіх князёў у македонскіх дрыгавічоў, якія, відаць, былі супляменнікамі нашым дрыгавічам. Адна з скандынаўскіх сагаў таксама згадвае, што яшчэ да запрашэння варагаў у Наўгародскую Русь (862 г.) Полаччына мела сваіх князёў (прыгадваецца легендарны князь Палтэс).

У IX ст. Полацк сканцэнтраваў вакол сябе вялікую тэрыторыю і стаў адным з важнейшых дзяржаўнаўтваральных цэнтраў Усходняй Еўропы. Па меры рассялення крывічоў улада Полацка на ўсходзе распаўсюджвалася на вярхоўі Заходняй Дзвіны і Дняпра, на поўдні заходзіла за Свіслач да вярхоўя Пцічы, на захадзе ад вярхоўя Нёмана да вярхоўя Дрысы і паралельна Дзвіне, заходзіла ў межы сучаснай Латвіі. Полацк быў найгалоўнейшым горадам воласці-княства. Усе іншыя гарады залежалі ад Полацка і лічыліся яго прыгарадамі. Такімі прыгарадамі былі Віцебск, Барысаў, Усвят, Друцк, Стрэжаў і інш. Як вынікае з аднаго летапісу, Смаленск таксама знаходзіўся ў Полацкай воласці, гэта значыць напачатку быў падпарадкаваны Полацку. Залежнасць прыгарадаў тычылася толькі знешніх спраў, унутраныя вырашаліся сваімі вечамі і князямі.

Вечавое кіраванне ў Полацку існавала да 1498 г., калі гораду было даравана магдэбургскае права.

Паміж Полацкам і Кіевам былі нейкія непаразуменні, магчыма з-за дрыгавіцкай зямлі, і кіеўскія князі Аскольд і Дзір пайшлі на Полацк вайной і перамаглі яго. Неўзабаве ў Кіеве на княжацкай пасадзе ўсталяваўся Алег, які пачаў аб'ядноўваць розныя плямёны. Ён накладваў на іх даніну (адсюль і слова «падданыя»). Сярод падданых згадваецца і Смаленск. Ці былі падданымі Полацк і дрыгавічы звестак няма. Але калі Візантыя дасылала ваенныя здабыткі, «уклады», кіеўскаму князю, дык гэтыя «уклады» належалі не толькі Смаленску, а і Полацку.

Пры пераемніках Алега—Ігары, Вользе, Святаславе—залежнасць Полацка ад Кіева памяншаецца. У апошняй чвэрці X ст. у Полацку княжыць незалежны князь Рагвалод. Полацкае княства было першым, якое вызвалілася з-пад улады Кіева. Рагвалод пашыраў свой уплыў на Наўгародскую зямлю, а таксама атрымаў верх і ў Тураўскім княстве на поўдні, якое дагэтуль залежала ад Кіева.

Існавалі супярэчнасці паміж Ноўгарадам і Кіевам. Яны закраналі і Полацк. Было важна, каго падтрымлівае Полацк. Палітыка Полацка мела на ўвазе і кантраляванне шляху «з варагаў у грэкі» ў вярхоўях Дняпра. Магчыма, што гэта і з'явілася прычынай нападу вялікага наўгародскага войска на Полацк. Уладзімір наўгародскі збірае супраць Полацка «вои многи» і перамагае Полацк.

У той час саюзы часта былі дынастычнымі і летапісы згаданыя падзеі падаюць так. Наўгародскі князь Уладзімір і яго брат кіеўскі князь Яраполк, якія шукалі сабе дапамогі з боку Рагвалода, дамагаліся рукі Рагнеды, дачкі Рагвалода. Рагнеда адмовіла Уладзіміру і гэта з'явілася зачэпкай для нападу Уладзіміра на Полацк у 980 годзе. Пасля перамогі ён забіў Рагвалода, яго жонку і абодвух сыноў, а Рагнеду згвалтаваў і прымусіў стаць сваёй жонкай. Праз некаторы час Уладзімір перамог і Яраполка, забіў яго і стаў правіць у Кіеве. Такім чынам ён атрымаў кантроль над галоўным гандлёвым шляхам і падпарадкаваў на нейкі час сабе прылягаючыя для яго землі.

Працяг спрэчкі паміж Полацкам і Кіевам адбываўся і ў палацы кіеўскага князя, пра што сведчыць кіеўскі летапіс. Паданне гаворыць аб тым, што Рагнеда не магла забыць сваёй крыўды і зрабіла замах на жыццё Уладзіміра. За гэта яна павінна была быць пакарана смерцю. Абараніў яе малалетні сын Ізяслаў, што вельмі ўразіла Уладзіміра і ён аддаў яму дзедава Полацкае княства, а для Рагнеды збудаваў новы горад каля Менска Ізяслаў (Заслаўе). Але гэта, верагодна, тлумачыцца эканамічнымі і палітычнымі прычынамі. Тут маглі ўлічвацца такія акалічнасці, як бесперспектыўнасць разбурэння Полаччыны, асваенне новых гандлёвых шляхоў, вызваленне полацкага князя ад моцнага ўплыву веча і, зрэшты, набыццё моцнага саюзніка супраць Ноўгарада. Такім чынам было адноўлена Полацкае княства, якім кіравалі полацкія князі Ізяславічы, ці, як пішуць летапісы, «Рагваложавы ўнукі», падкрэсліваючы іх самастойнасць і незалежнасць ад Кіева і Рурыкавічаў. Пазней сын Ізяслава Брачыслаў захапіў Ноўгарад, але пацярпеў паражэнне ад Яраслава (Яраслаў Мудры—сын Рагнеды) у бітве на р. Судоме. Нягледзячы на гэта, Яраслаў імкнецца прыцягнуць на свой бок магутнага полацкага князя і аддае Брачыславу Віцебск і Усвят, пасля чаго шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае апынуўся пад кантролем Полацка. Тым самым Кіеў прызнаў самастойнасць Полацкай зямлі і пагадзіўся з ёю.

Пасля Брачыслава з 1044 г. вялікім полацкім князем быў яго сын Усяслаў Чарадзей, які атрымаў такую мянушку за свой палітычных розум, хітрасць, велізарную энергію, адміністрацыйны і ваенны талент. Людзям было незразумела, як усё гэта можа спалучацца ў адным чалавеку. Жыццё яго было поўнае рашучых учынкаў, узлётаў і трагічных падзенняў. Імкненне Усяслава распаўсюдзіць уплыў Полацка на Ноўгарад і Пскоў выклікала супраціўленне кіеўскіх князёў. Яны аб'ядналіся, прыйшлі да Менска, узялі яго, перабілі пагалоўна мужчынскае насельніцтва, а жанчын і дзяцей раздалі дружыннікам. На р. Нямізе адбылася сустрэча з войскам Усяслава і 3 сакавіка 1067 года разгарнулася жорсткая бітва, дзе большая частка палачан палягла. Усяслаў быў пераможаны. Але і Яраславічы мелі вялікія страты і не маглі праследаваць войска Усяслава. Праз нейкі час яны запрасілі Усяслава на перагаворы пад Оршу, дзе вераломна схапілі з двума сынамі, закавалі ў кайданы і адвезлі ў палон у Кіеў. У час паўстання ў Кіеве (1068 г.) князя вызвалілі з турмы і прапанавалі яму кіеўскі пасад. Аднак Усяслаў прабыў на ім менш года, пакінуў Кіеў і вярнуўся ў Полацк.

Усяслаў быў вялікім полацкім князем 57 гадоў. Полацкае княства за гэты перыяд вылучалася як магутная дзяржава. Ёй падпарадкоўваліся прыбалтыйскія народы, з ёй вымушаны былі лічыцца ўсе суседзі. Тут развіваліся рамёствы, гандаль, будаўніцтва. Быў пабудаваны знакаміты Сафійскі сабор. Полацку належалі гарады Менск, Віцебск, Друцк, Лукомль, Ізяслаў, Лагойск і інш.

Дзень і час смерці Усяслава Чарадзея, гэтага вялікага дзеяча, дакладна вядомы—14 сакавіка 1101 года, у сераду, а 9 гадзіне.

Пасля Усяслава Полацкая дзяржава пачала драбніцца, што было заканамерна для таго часу. Кіравалі ёю сыны Усяслава. Княствы Полацкай зямлі, і Полацк у прыватнасці, і ў пазнейшы час працягвалі адыгрываць вельмі адметную ролю ў нашай гісторыі.

**В. АРЛОЎ,**
**старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ.**

